



Ілюстрацыя: Euroradio

1. ЗАТРЫМАННІ І СУДЫ
2. ЦІСК, ЗВАЛЬНЕННІ, АДЛІЧЭННІ
3. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ
4. ГАЛАСЫ АСОБАЎ
5. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ
6. АЎКЦЫЁН
7. РОЗНАЕ

**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ?**

**ПАДТРЫМАЙЦЕ**

**БЕЛАРУСКІ ФОНД КУЛЬТУРНАЙ САЛІДАРНАСЦІ**

**І КАМПАНІЮ "SAVE OUR SONGS"**

# 1. ЗАТРЫМАННІ І СУДЫ



Фота: Euroradio

***Аляксей Санчук***, барабаншчык з гурта "Требуем разойтись", затрыманы 4 лістапада на рэпетыцыйным пункце разам з барабаншчыкамі, якія задавалі рытм мінскім пратэстным маршам, не выйшаў з ізалятара пасля сутак адміністрацыйнага арышту.
На яго завялі крымінальную справу паводле ч. 1 артыкула 342 Крымінальнага кодэкса Беларусі. Сілавікі лічаць, што ён быў адмінам нейкага чата на некалькі чалавек і там "арганізоўваў дзеянні, накіраваныя на грубае парушэнне грамадскага парадку".

***Міколу Папеку***, паэта і пчаляра з Пружанаў затрымалі 1 снежня і **72** гадзіны трымалі ў ІЧУ Брэста. Яго вінавацяць ва ўдзеле ў карагодзе на вуліцах у Берасці, які рабілі пратэстоўцы 13 верасня, арт. 342 (арганізацыя дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак).
Віну Мікола не прызнаў і патрабаваў перакласці ўсе дакументы справы на беларускую мову. Для допыту яму выклікалі перакладчыка з беларускай, універсітэцкага выкладчыка, бо ў РАУС ніхто не гаворыць па-беларуску.


Фота: Radio Racyja



***Яўгену Атцецкаму***, затрыманаму ў нядзелю 17 лістапада падчас марша памяці Рамана Бандарэнкі, суд Цэнтральнага раёна 1 снежня прысудзіў штраф **20** базавых велічынь (**540** рублёў).



***Змітра Вайноўскага,*** рэкламіста, фатографа, які займаецца грамадсказначнымі праектамі, партнёра Беларускага ПЭНа па розных праектах, 30 лістапада затрымалі, і 1 снежня суддзя Карсюк прысудзіў Змітру **13** сутак.




***Уладзіміра Міранюка***, музыку і кіраўніка студыі гуказапісу Хата44 з Берасця, затрымалі 25 лістапада і з таго дня не выпускалі з ізалятара часовага ўтрымання, дадаючы суткі арышту.



***Дзяніса Філіпенку***, вакаліста гурта Rahis, асудзілі на **13** сутак, аднак ён яшчэ чакае даты адбыцця па прысудзе, таму што месцаў не хапае.

Фота: Facebook

**ПАДЧАС МАРШУ ДВАРОЎ 6 СНЕЖНЯ БЫЛІ ЗАТРЫМАНЫЯ:**



***Уладзімір Лянкевіч***, паэт, перакладчык, музыка, сябар Беларускага ПЭН-цэнтра (атрымаў **15** сутак арышту). У верасні ён ужо быў затрыманы і адседзеў **6** сутак.



***Аляксей Сапрыкін***, актор Беларускага свабоднага тэатра, актывіст, партнёр Беларускага ПЭНа (два гады запар ён быў вядоўцам прэміі Карласа Шэрмана за найлепшы пераклад на беларускую мову)



***Валерыя Граблюк,*** скрыпачка, атрымала **13** сутак арышту.



***Сяргей Смірноў***, лідар гурта Cross B Band, атрымаў 10 сутак арышту.



***Мікіта Кузьмін***, перкусіяніст гурта Botanic Project, атрымаў **10** сутак арышту.

Фота: Facebook

# 2. ЦІСК, ЗВАЛЬНЕННІ




Фота: Euroradio

**РАБЕРТА ВАЛЬДЭС КАСАНУЭВА ЗАЙМАЕЦЦА ГРАФІЧНЫМ ДЫЗАЙНАМ, АМАЛЬ 30 ГАДОЎ ЖЫВЕ Ў БЕЛАРУСІ, ЯКАЯ СТАЛА ЯГО ДРУГОЙ РАДЗІМАЙ, МАЕ ТУТ СЯМ'Ю І ТРОХ ДЗЯЦЕЙ.**

Ён быў затрыманы падчас мірнага марша 8 лістападаю Цяпер вядзецца працэс яго дэпартацыі, бо яму не працягнулі від на жыхарства праз яго актыўную грамадзянскую пазіцыю. Рабэрта былы член Саюза дызайнераў, у яго падрымку саюз накіраваў характарыстыку-хадайніцтва для суда з просьбай адмяніць рашэнне.



***Юля Шаўчук***, акторка Свабоднага тэатра, атрымала паведамленне ад "міліцыі з Кобрына".
У паведамленні Юлю просяць "перазваніць пільна"






***Юліі Савіч***, якая дваццаць гадоў працавала ў Акадэміі мастацтваў, не працягнулі кантракт. Юлія працавала вядучай спецыялісткай у аддзеле дэкаратыўна-прыкладного мастацтва. Калегі лічаць, што гэта адбылося выключна праз яе грамадзянскую пазіцыю.



**ЮЛІЯ ЧАРНЯЎСКАЯ**, ВЯДОМАЯ КУЛЬТУРОЛАГ, ПІСЬМЕННІЦА, ЖУРНАЛІСТКА, ПРАФЕСАРКА, СЯБРА КААРДЫНАЦЫЙНАЙ РАДЫ, ЗВОЛЬНІЛАСЯ З ІНСТЫТУТА КУЛЬТУРЫ.

***“Я трымалася доўга, але ступень неабходных кампрамісаў паміж прафесіяй і службай з кожным днём расце. Ёсць людзі, якія могуць з гэтым справіцца дзеля самых розных мэтаў: паклікання або непыльнай работкі; адліку наменклатурнай кар'еры або, наадварот, камфортнага заходу; дзеля "стабільнасці" або дзеля ідэалу — зрабіць хоць нешта добрае знутры, выгадаваўшы студэнтаў. Ёсць і іншыя памкненні самага рознага кшталту. Але ўжо не маё…”***




З ***этнакрамай "Цудоўня"*** ў Гародні датэрмінова спынілі дамову арэнды 4 снежня. Напярэдадні ў краму прыходзіла міліцыя з праверкай наконт бел-чырвона-белага сцяга на ўваходзе.

"Цудоўня" - важная культурніцкая пляцоўка горада, дзе можна набыць вырабы беларускіх майстроў, кнігі і сувеніры.

# 3. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ



Фота: Андрэй Лянкевіч

Увесь снежань, штовечар у 19:30, ***Маляваныч*** чытае казкі ў рамках праекта “Калядны каляндар”, глядзець яго можна на каналах Беларускага фонда культурнай салідарнасці у Facebook і Youtube

Казачны свет у малюнках увасабляе цудоўны ***Андрусь Такінданг***. Падтрымаць дзеячаў культуры ды іх новыя творчыя праекты можна, ахвяраваўшы любую суму ў Беларускі фонд культурнай салідарнасці.






Фота: Youtube

Анлайн-канцэрт ***Рыгора Лайкова***, лідара гурта PyLai, які быў затрыманы і моцна збіты 15 лістапада.

Беларускі гурт ***Intelligency*** запісаў акустычны live на песню ZLO разам з вольнымі ***Купалаўцамі***.


















**УЛАДЗІСЛАЎ СТАЛЬМАХОЎ, МАСТАК І ДЫЗАЙНЕР, ЯКІ БЫЎ ЗАТРЫМАНЫ РАЗАМ З ДАЧКОЙ НАСТАЙ СТАЛЬМАХОВАЙ 8 ЛІСТАПАДА І АДБЫЎ 8 СУТАК АРЫШТКУ, ЗРАБІЎ ТАКІЯ ВОСЬ ЗАМАЛЁЎКІ ПРА СВОЙ ДОСВЕД У ЖОДЗІНА.**



Адказ ***Магілёўскага тэатра*** свайму звольненаму кіраўніку.

Беларускія паэткі, пры падтрымцы Беларускага ПЭН-цэнтра, правялі паэтычны онлайн-марш 5 снежня, запіс можна глядзець па спасылцы. Сваімі вершамі падзяліліся ***Крысціна Бандурына, Дар'я Бялькевіч, Ганна Комар, Наста Кудасава, Вальжына Морт і Юля Цімафеева***.



5 снежня Беларускі Фонд Культурнай Салідарнасці зладзіў анлайн-паказ спектакля "З жыцця выкапняў" у падтрымку супрацоўнікаў ***Новага драматычнага тэатра***.
Трупа НДТ далучылася да Агульнанацыянальнай забастоўкі, за што адміністрацыя тэатра падала ў суд, які прызнаў забастоўку незаконнай.
У выніку ***11 акцёраў*** і ***3 супрацоўнікі*** напісалі заявы на звальненне, двое з іх – пад ціскам адміністрацыі тэатра.
Паводле загаду зверху, акторам забаронена браць у іншыя дзяржаўныя тэатры.



**ПА СПАСЫЛЦЫ МОЖНА ЗРАБІЦЬ АХВЯРАВАННЕ, КАБ ПАДТРЫМАЦЬ ЗВОЛЬНЕНЫХ СУПРАЦОЎНІКАЎ, НА ЛЮБУЮ СУМУ. СПЕКТАКЛЬ МОЖНА ГЛЯДЗЕЦЬ ТУТ.**



Магілёўскі праект ***MNOY*** прэзентаваў пераканаўчае відэа на сінгл "Верталёт" – пра катаванні і чаканні беларускага народа
*В серое небо грустно смотрит народ,*
*ждёт, когда упадёт вертолёт...*



Гурт ***Laudans*** выпусціў відэа на песню "У сэрцы свабода", з малюнкамі @na_yawu, як маральную падтрымку ўсім, хто прайшлі праз затрыманне і зняволенне.

# 4. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



**АЛЕНА ГІРОНАК, АКТРЫСА ТЭАТРА І КІНО, ЯКУЮ ЗАТРЫМАЛІ 29 ЛІСТАПАДА ПАДЧАС “МАРШУ СУСЕДЗЯЎ” І 1 СНЕЖНЯ АШТРАФАВАЛІ НА 810 РУБЛЁЎ, 2 СУТАК ПРАВЯЛА НА АКРЭСЦІНА. АЛЕНА РАСПАВЯЛА ПРА СВОЙ ДОСВЕД. У БУСЕ СІЛАВІКІ “ВЕЛЬМІ ХАЦЕЛІ РАЗМАЎЛЯЦЬ”, АЛЕ ЗБОЛЬШАГА ГЭТА БЫЛА АДНАБАКОВАЯ РАЗМОВА.**

**“ЯНЫ ЛІЧАЦЬ НАС ЗДРАДНІКАМІ РАДЗІМЫ, КАЖУЦЬ, ШТО МЫ ЎСЕ ХОЧАМ З’ЕХАЦЬ У ПОЛЬШЧУ, БЫЦЦАМ БЫ ДА ІХ ЧАСАМ СПЕЦЫЯЛЬНА ПАДЫХОДЗЯЦЬ І ПРОСЯЦЬ ЗАТРЫМАЦЬ, МАЎЛЯЎ, ЯШЧЭ ДВА РАЗЫ І МОЖНА БУДЗЕ Ў ПОЛЬШЧУ. СПРЭЧКА Ў НАС, КАНЕШНЕ, БЫЛА НЕ ВЕЛЬМІ НА РОЎНЫХ, АЛЕ Я СКАЗАЛА, ШТО ГЭТА ЯНЫ ЗДРАДНІКІ РАДЗІМЫ”.**

# 5. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ






Фота: Belsat

**У ЛЮБЛІНСКАЙ ГАЛЕРЭІ “ROZDROŻA” 1 СНЕЖНЯ АДКРЫЛАСЯ ВЫСТАВА РЭПАРЦЁРСКАЙ ФАТАГРАФІІ І ПЛАКАТА, НАТХНЁНАГА ПАДЗЕЯМІ АПОШНІХ МЕСЯЦАЎ У БЕЛАРУСІ, “БЕЛАРУСЬ 2020. ТРАЎМА І СМЕХ”. ФАТАГРАФІІ І ПЛАКАТЫ ТАКСАМА МОЖНА ПАГЛЯДЗЕЦЬ НА САЙЦЕ WWW.ROZDROZA.COM.**



Канфедэрацыя бібліятэк Лігі Плюшча ўключыла матэрыялы пратэстнага архіву Chrysalis Mag ў свой вэб-рэестр.
Сярод матэр'ялаў, якія трапілі ў архіў: "Арт-архив | Август 2020" и падборка "Нина Багинская в творчестве беларусских (и не только) художников".

***Славенскі ПЭН-цэнтр*** выказаў падтрымку народу Беларусі.
***“Сябры Славенскага ПЭН-цэнтра выказваюць салідарнасць з грамадзянамі Беларусі, якія хочуць ануляваць вынікі жнівеньскіх выбараў і імкнуцца да таго, каб у іх краіне панавала дэмакратыя. Мы падтрымліваем тых, хто выкарыстоўвае мірныя формы пратэсту дзеля процідзеяння фальсіфікацыі выбараў, рэпрэсіям і гвалту, а таксама захапляемся кожным, хто патрабуе свабодных і справядлівых выбараў, павагі да правоў чалавека і вяршэнства права”.***




Зборнік тэкстаў на нямецкай мове **BELARUS! Das weibliche Gesicht der Revolution** ("Беларусь! Жаночы твар рэвалюцыі") быў выдадзены ў Берліне ў сярэдзіне лістапада.
Сярод беларускіх аўтарак прадстаўленыя ***Вера Бурлак, Вольга Шпарага, Вальжына Морт, Таня Арцімовіч, Вольга Гронская, Ірына Раманава, Юля Цімафеева*** і іншыя.
Усе тэксты зборніка – арыгінальныя артыкулы, вершы, летапісы – напісаныя выключна жанчынамі.

5 снежня адбылася прэзентацыя зборніка з удзелам Тані Арцімовіч і ***Ніны Веллер***.

6 снежня адбылася прэзентацыя з удзелам ***Яраславы Ананка, Ціны Вюншман*** і ***Марыны Напрушкінай***.

9 снежня адбудзецца прэзентацыя з удзелам Юлі Цімафеевай, Вольгі Шпарагі, ***Ірыны Герасімовіч***, ***Томаса Вайлера*** і ***Віёлы фон Крамон***.



**Euronews** знялі сюжэт пра беларускіх музыкаў, якія трапілі за краты.



У Беластоку з'явіўся круты ***арт-аб'ект***, прысвечаны гвалту, які ўчыняюць беларускія сілавікі. Чалавек у форме напраўляе стрэльбу на мінакоў, якія ідуць па вуліцы.



**СВЯТЛАНА АЛЕКСІЕВІЧ, НОБЕЛЕЎСКАЯ ЛАЎРЭАТКА І СТАРШЫНЯ БЕЛАРУСКАГА ПЭН-ЦЭНТРА, ВЫСТУПІЛА НА РАДЗЕ ААН.**
**ЯНА ПАПРАСІЛА САВЕТ ААН ВЫКАРЫСТОЎВАЦЬ УСЕ МАГЧЫМЫЯ СПОСАБЫ РЭАГАВАННЯ НА СІТУАЦЫЮ Ў БЕЛАРУСІ І СТВАРЫЦЬ СПЕЦЫЯЛЬНЫЯ МЕХАНІЗМЫ РАССЛЕДАВАННЯ ЗЛАЧЫНСТВАЎ ДЗЕЮЧАЙ УЛАДЫ.**

***“Беларусское общество понимает, что процесс выхода из общественно-политического кризиса – долгий и сложный, что необходим диалог. Но для него необходимо обоюдное понимание сторон, что нужна гуманизация ситуации в стране. Общество готово к диалогу, но он невозможен в ситуации, когда власти держат в заложниках политзаключенных и продолжают убивать, истязать и калечить свой народ, преследовать инакомыслящих. Общество готово к новой стране: стране уважающей мнение, разделяющей ответственность, стране без насилия, уважающей закон и правосудие. Готова ли власть к диалогу об этих простых и важных вопросах?”***

Міжнародны інтэрнэт-часопіс **PEN/Opp**, над якім працуе Шведскі ПЭН, зрабіў тэматычны выпуск пра Беларусь. У ім на англійскай і шведскай мовах прадстаўленыя інтэрв’ю са ***Святланай Алексіевіч*** і пратэставыя вершы ***Дзмітрыя Строцава***.



Ілюстрацыя: penopp.org

# 6. АЎКЦЫЁН







ПЕРШАЯ ГІТАРА СПЯВАЧКІ І БЛОГЕРКІ ЛЕРЫ ЯСКЕВІЧ

ЗРАБІЦЬ СТАЎКУ НА АЎКЦЫЁНЕ

ГЭТА ІНСТРУМЕНТ ЛЕРЫ, НА ЯКІМ ЯНА ЗАПІСАЛА СВАЕ ПЕРШЫЯ ПЕСНІ І ГРАЛА НА ПЕРШЫХ КАНЦЭРТАХ. ГІТАРУ БЛОГЕРЦЫ ПАДАРАВАЎ СПЯВАК САША НЭМА. АТРЫМАНЫЯ СРОДКІ ПОЙДУЦЬ НА ПАДТРЫМКУ ДЗЕЯЧАЎ КУЛЬТУРЫ, ЯКІЯ ПАЦЯРПЕЛІ ЗА СВАЮ ГРАМАДЗЯНСКУЮ ПАЗІЦЫЮ.

# 7. РОЗНАЕ

**ЗА БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫЯ СЦЯГІ Ў ВОКНАХ ЛЮДЗЕЙ ЗАТРЫМЛІВАЮЦЬ, ЗАБІРАЮЧЫ НАЎПРОСТ З УЛАСНЫХ КВАТЭР.**



Фота: Новы час





Фота: Новы час



## ГЭТЫ МАТЭРЫЯЛ ПАДРЫХТАВАНЫ Ў СУПРАЦЫ

БЕЛАРУСКІМ ПЭН-ЦЭНТРАМ І БЕЛАРУСКІМ ФОНДАМ КУЛЬТУРНАЙ САЛІДАРНАСЦІ







## ІНФАРМАЦЫЙНЫ ПАРТНЁР




ПАРТАЛ TUZINFM.BY

## КАНТАКТЫ

BFKS2020@protonmail.com
by_culture
BYCULTUREFUND
bcsfbel
by_culture
#BY_culture

